


# Рэгіянальная газета

4 кастрычніка 2013 года
№ 40 (962)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

Выбіў пробкі, абрэзаў тэлефон і запісаў абяцанне не здаваць у міліцыю.
4-я старонка

Дзень настаўніка – самае смачнае свята!
5-я старонка

- **У рэгіёне пройдуць восеньскія кірмашы.** /3-я старонка.
- **Падаражэў праезд.** /3-я старонка.
- **Бібліятэка знаёміць з краінамі праз кухню.** /2-я старонка.
- **"Маладзечна - 2013" – "Зорка - БДУ". Лік гульні 3:3.** /22-я старонка.
- **Як прайсці тэхагляд.** /23-я старонка.

## навіны рэгіёна

### Падаць "Руку дапамогі"

**МЯДЗЕЛ.** У раёне з 26 верасня праходзіць акцыя "Рука дапамогі". Падчас яе людзі могуць прынесці адзенне і абутак, які потым размяркуюць сярод шматдзетных і цяжкіх сем'яў, адзінокіх пажылых і інвалідаў. Перасоўны пункт па зборы адзення, абутку ў насельніцтва, згодна з графікам, ездзіў па Мядзеле, к. п. Нарач (Купа) і вёсцы Нарач (Кабыльнік). А да 7 кастрычніка ахвотныя могуць прыносіць рэчы ў тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. "Падобная акцыя праходзіць у раёне ўпершыню", – паведаміла намеснік дырэктара Мядзельскага ТЦСАН **Наталля Шаранговіч**. – "Мяркуем праводзіць яе і надалей".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Запрашаем на веларалі

**МАЛАДЗЕЧНА.** 5 кастрычніка, у суботу, адбудзецца веларалі "Маладзечанская восень". Рэгістрацыя ўдзельнікаў пачнецца а 9 гадзіне раніцы на гарадскім стадыёне. Паўдзельнічаць у ралі змогуць усе ахвотныя. Адзіная ўмова – наяўнасць ровара. Маршрут будзе пралягаць па Маладзечанскім раёне, яго працягласць складзе каля 40 кіламетраў. Лепшыя ўдзельнікі ў камандным і асабовым заліку будуць узнагароджаны прызамі і дыпломамі. З больш падрабязнай інфармацыяй можна азнаёміцца на сайце forum.poehali.net

**Сяргей БЯЛКОЎ, галоўны суддзя веларалі.**

### Павялічылася базавая велічыня

**МІНСК.** Базавая велічыня ад 1 кастрычніка вырасла на 30 тысяч рублёў і цяпер складае 130 тысяч. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 842 ад 26 верасня 2013 года, паведамляе БЕЛТА. Папярэдні раз базавую велічыню павялічылі 1 красавіка 2012 года. Тады яна вырасла з 35 тысяч да 100 тысяч рублёў.

### Ацяпленне і гарачая вада падаражэлі на 3%

**МІНСК.** Ад 1 кастрычніка ў Беларусі павышаны ўключаны ў склад камунальных паслуг тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння, а таксама тарыф на прыродны газ, што рэалізуецца насельніцтву. Тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння павялічаны з 68.833,5 рубля да 70.898,5 рубля за 1 Гкал (на 3%). Кошт аднаго кубаметра газу у ацяпляльны перыяд вырас з 358,8 да 404,3 рубля (на 12,7%), у летні перыяд — з 933,6 да 1.232,4 рубля (на 32,2%). Пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў — з 933,6 да 1.232,4 рубля (таксама на 32,2%) незалежна ад сезона. Пастановай таксама павышаны цэны на прыродны газ, што выкарыстоўваецца для ацяплення нежылых памяшканняў, а таксама на звадкаваны газ, што выкарыстоўваецца ў жылых дамах і кватэрах. Падрабязней чытайце на сайце rh.by.

**Аддзел інфармацыі.**

# Чвэрць рэгіёна мае 60



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**У двары дома па вуліцы Хмяльніцкага ў Маладзечне мноства кветак. Кожны, хто праходзіць тут, захапляецца іх разнастайнасцю. А гаспадыня гэтага кутка 73-гадовая Ганна Блізнюк, якая адна іх даглядае, здзіўляецца, як можна не любіць прыгажосць, створаную прыродай. Размову з Ганнай Блізнюк чытайце ў наступных нумарах "РГ".**

**РЭГІЁН. Першы тыдзень кастрычніка ў Беларусі прысвячаецца сталым людзям. Паводле прыблізнага падліку, у нашым рэгіёне чвэрць насельніцтва – гэта людзі, якія адзначылі 60 год.**

Як паведамляе Белта, у Беларусі жыве 1 мільён 859 тысяч людзей сталага ўзросту, сярод якіх 541 чалавеку споўнілася больш за 100 гадоў.

**МАЛАДЗЕЧНА. На Маладзечаншчыне жыве 26 840 чалавек, якім за 60 год. Гэта каля 20% насельніцтва.**

Ва ўзросце 80-89 год жыве 4 040 чалавек, а 90-99 год – 440.

Шэсць чалавек перасягнулі 100-гадовую мяжу. Самая сталая з іх маладзечанка **Ганна Сівец**, якая сёлета спраўляе 104 гады. Маладзечанкі **Дамініка Сакалоўская**, **Ганна Ахрамовіч**, **Любоў Русак**, а таксама жыхарка мястэчка Краснае **Надзея Яцыновіч** сёлета спраўляюць 101 год.

Якраз у дзень здачы газеты ў друк, 3 кастрычніка, 100-гадовы юбілей святкуе **Марына Квяткоўская** з Маладзечна.

**ВІЛЕЙКА. На Вілейшчыне жыве 12 580 пажылых людзей (гэта каля чвэрці ад ўсіх жыхароў). Больш за 90 год пражылі 266 чалавек.**

Узросту сто і больш год дасягнулі трое жыхароў раёна – з іх дзве жанчыны і адзін мужчына. Самым старэйшым жыхаром раёна з'яўляецца **Мікалай Акунькові ч** з вёскі Слабада Іжанскага сельсавета – ён 1904 года нараджэння.

**СМАРГОНЬ. Агульная колькасць людзей, што атрымоўваюць пенсію па ўзросце, каля 11 000.**

Доўгажыхарка, якой у 2013 годзе споўнілася 102 гады, жыве ў вёсцы Старыя Баруны Крэўскага сельсавета. Завуць яе **Сабіна Сталькоўская**.

**ВАЛОЖЫН. Агульная колькасць людзей, што атрымоўваюць пенсію па ўзросце, 9 682 чалавекі.**

Людзей, якім больш за 100 гадоў – 12. Доўгажыхары: **Марыя Кананові ч**, 1904 года нараджэння. Ёй 25 красавіка споўнілася 107 гадоў, жыве ў вёсцы Лістапады Гародзькаўскага сельсавета. **Станіславе Малажавай** у гэтым годзе споўнілася 105 гадоў. Яна з вёскі Пералясанка Івянецкага сельсавета. Пра гэта паведамілі ў аддзеле сацабароны.

**АШМЯНЫ. Агульная колькасць людзей, што атрымоўваюць пенсію па ўзросце, 8 999.**

Доўгажыхары: 100-гадовая **Ганна Сітнік** з вёскі Кліманцы Ашмянскага раёна і 102-гадовая **Юзэфа Янус** з Ашмянаў.

**АСТРАВЕЦ. У астравецкім аддзеле статыстыкі паведамілі, што на 1 студзеня людзей ад 60 год у раёне 5 340.**

Мужчын і жанчын, якім за 80 год, – 1 127.

Усяго сталыя людзі на Астравеччыне складаюць 22% насельніцтва.

**МЯДЗЕЛ. У Мядзельскім раёне жыве 7 751 пажылы чалавек (гэта людзі, якім за 60 год), каля 27% насельніцтва.**

У тым ліку – 616 адзінокіх і 3 416 чалавек жывуць адны, 10 інвалідаў і 37 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

Ёсць у раёне 143 доўгажыхары (маюць узрост больш за 90 год). Адной жанчыне нядаўна споўнілася сто год, дваім жыхарам раёна – больш за 100 год. Гэта **Ніна Роліч** з вёскі Наносы (нарадзілася ў 1912 годзе) і самы старэйшы жыхар раёна **Іван Куцкевіч** з вёскі Унукі – мае 104 гады.

Трынаццаць год у Мядзеле працуе клуб "Задушэўная размова" для грамадзян пажылога ўзросту. Яны разам адзначаюць святы, на пасяджэнні клуба запрашаюць цікавых людзей. Гурткі для пажылых працуюць на базе бібліятэк раёна.

Сёлета ў аддзяленні круглясутачнага знаходжання для грамадзян пажылога ўзросту і інвалідаў у вёсцы Вузла пачала працаваць "Псіхалагічная гасцёўня".

**Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

КРАІНЫ СВЕТУ

# Бібліятэка знаёміць з краінамі праз кухню



Фота забяспечана Таццянай ЛЕТУНОВАЙ.

Навучэнкі політэхнічнага каледжа каштуюць нямецкую салату "Вестфалія".

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду, 18 верасня, у зале літаратуры на замежных мовах стартаваў новы праект "Традыцыі і культура харчавання народаў свету".**

Першую праграму прысвяцілі Германіі. Навучэнцам першага курса маладзечанскага політэхнічнага каледжа прапанавалі прэзентацыю, у якой падрабязна распавялі пра гісторыю культуры харчавання немцаў, аб уплыве іншых краін і пэўных асоб на нямецкую кухню.

У Германіі існуе вялікая розніца паміж традыцыямі поўдня і поўначы. Абасабленне пэўных земель стала прычынай узнікнення баварскай і швабскай кухняў. Навучэнцам распавялі і пра асноўныя складнікі нямецкіх традыцый харчавання.

Ім прапанавалі стварыць салат "Вестфалія", найбольш папулярны ў заходніх немцаў. Вялікую ўвагу надалі сервіроўцы стала і правілам паводзін за сталом.

### Асаблівасці нямецкай кухні

Свініна – самая любімая і распаўсюджаная ў Германіі ежа. З яе робяць кілбаскі і сасіскі розных відаў. У Германіі не менш за 1500 відаў кілбас. Напрыклад, вэнджаныя кілбаскі з ялавічыны і свініны, шчодра прыпраўленыя часнаком і каляндрай, пазней сталі выкарыстоўваць у хот-догах.

Хлеб таксама з'яўляецца адным з асноўных складнікаў нямецкай кухні. У Германіі больш за 300 відаў хлеба, ад запечанага з цёмна-карычневай скарынкай да ўзбагачанага бялкамі. У горадзе Ульме існуе нават Музей хлеба.

Увесь свет ведае цудоўную нямецкую выпечку: шварцвальдскі пірог, печыва з разынкамі, прамочанае брэндзі, цукеркі-бульбы, мноства відаў марозіва.

Сярод рэгіянальных страў асабліва папулярныя клёцкі па-швабску, густы суп з рыбы, мяса, бульбы і салёных агуркоў – традыцыйная страва паўночнай Германіі.

Нямецкі абед пачынаецца з супу. Потым падаюць асноўную страву, якую суправаджаюць некалькімі закускамі, напрыклад, сырамі. Потым падносяць дэсерт. Немцы падчас трапезы багата спажываюць піва, віно ці шампанскае. Сярод нямецкіх вінаў асабліва вядомы рыслінг.

Традыцыйна немцы садзяцца за стол пяць разоў на дзень. На сняданак ядуць хлябцы або булачкі з варэннем ці мёдам, кілбасы, сыр, фрукты, вараныя яйкі, ёгурт, тварог, аўсяныя шматкі, п'юць чай ці каву.

На абед звычайна ядуць мяса, гародніну, бульбу.

На вячэру, якая адбываецца недзе ў 17-18 гадзін, звычайна падаюць халодныя стравы.

### Кілбасы купляюць у ларках

Кілбасы, нацыянальная страва Германіі, надзвычай танныя, іх можна набыць у любым ларку.

Традыцыйныя мясныя стравы – тушаная ці смажаная свіная нага з бульбай і кіслай капустай, засмажанае малочнае парася.

Свае кулінарныя традыцыі ёсць у кожным рэгіёне Германіі. Баварыя і Шварцвальд знакамітыя выпечкай. Смажаныя яйкі з буракам і сечанай салёнай ялавічынай, якія падаюць з булачкамі, – фірменны далікатэс Гамбурга. Суп са слімакоў папулярны на поўдні Германіі, а суп з вугра – на поўначы.

### Нямецкая салата Вестфалія

На чатырох-пяцёх чалавек спатрэбяцца дзве вялікія сырыя нашаткаваныя морквы, адзін парэзаны кубікамі агурок, па палове парэзаных кубікамі жоўтага і чырвонага салодкіх перцаў. Дадаць пучок парэзаных салатных лістоў.

Для заліўкі змяшаць 100 грамаў ёгурту без дадаткаў, дзве сталовыя лыжкі аліўкавага алею, палову чайнай лыжкі солі, адну чайную лыжку салодкай гарчыцы, адну лыжку вадкага мёду, крыху пасечанай пятрушкі. Дадаць да гародніны. Пасыпаць цвёрдым сырам кшталту Гауда і крыху абсмажанымі перамолатым арахісам. Смачна і карысна!

**Таццяна ЛЕТУНОВА,**
**галоўны бібліятэкар залы літаратуры на замежных мовах Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча.**

СВЯТА

# Спектакль па хіміі – майстэрства настаўніка!

**МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню я ўбачыла Марыну Сяргееўну Кавалёву, калі яна замяняла ў нас урок хіміі.**

"Хай бы яна нас вучыла", – падумала я. Якая ж была ўсеагульная радасць, калі мы даведаліся, што менавіта Марына Сяргееўна стане нашым класным кіраўніком.

Таму што яна не толькі выдатны педагог, але добры і спагадлівы чалавек. Турбуецца, перажывае ўсе ўзлёты і падзенні разам з намі.

Марына Сяргееўна нарадзілася і вырасла ў Маладзечне, закончыла СШ №7, дзе зараз і працуе.

У школьныя гады была сарамлівай і ніколі не праяўляла ініцыятыву. Мела поспех у хіміі, матэматыцы і фізкультуры. Цяпер захапляецца вышыўкай, вязаннем і чытаннем.

– Я люблю сваю прафесію і дзяцей, таму што ў іх можна шмат чаму навучыцца, – распавядае педагог.

Марына Сяргееўна лічыць, што сучасны настаўнік павінен быць патрабавальным і сур'ёзным і ў той жа час валодаць пачуццём гумару і ўмець знаходзіць агульную мову з вучнямі. Трэба добра ведаць свой прадмет і даступна тлумачыць яго.

З упэўненасцю можна сказаць, што наш класны кіраўнік валодае ўсімі якасцямі сучаснага настаўніка. Яе ўрокі заўсёды займальныя, яна ўмее рознымі спосабамі данесці да нас матэрыял.

Сцэнічнай пастаноўкай па літаратуры нікога не здзівіць, а вось спектакль па хіміі – гэта нешта новае! Перад усёй школай мы паказвалі інсцэніроўку з хімічнымі доследамі! Гэта было незабыўна!

У Дзень настаўніка сваім калегам Марына Сяргееўна Кавалёва жадае здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, сіл і цярпення.

**Вольга КЛІМЯНОК,**
**вучаніца 9 класа маладзечанскай гімназіі №7.**



КОНКУРСЫ

## Мядзельскія гімназісты спаборнічалі з украінцамі і палякамі

**МЯДЗЕЛ. Напрыканцы верасня ля Львова праходзіў фінал конкурсу "Творчасць не ведае межаў".**

Адбываўся ён у межах праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча–Беларусь–Украіна на 2007-2013 гады.

Усяго ў конкурсе прынялі ўдзел 94 школы і гімназіі з трох краін. На фінальныя спаборніцтвы запрасілі 17 камандаў – найлепшых у сваіх рэгіёнах. Сярод іх была каманда гімназіі-інтэрната Мядзела, якая прадставіла Мінскую вобласць. Гутарым з кіраўніком каманды і гуртка "Адлюстраванне" навучальнай установы **Кацярынай Якубоўскай**:

**– Што ўключаў у сябе конкурс?**

– Напачатку трэба было выканаць розныя заданні. Неабходна было прадставіць фотаздымак ці малюнак, які адлюстроўвае трансгранічнае супрацоўніцтва. Зрабілі фатаграфію, на якой беларус, полька і ўкраінка ў нацыянальных строях трымаюць на руках глобус. Прыдумалі дэвіз – "Будуем будучыню разам". Прапанавалі тры гульні, у якія маглі б гуляць змешаныя каманды.

Таксама нам прапаноўвалі шэраг праектаў, якія будуць рэалізоўвацца ў межах трансгранічнага супрацоўніцтва. Трэба было выбраць тры з іх, якія нам здаюцца найбольш цікавымі і неабходнымі, абгрунтаваць свой выбар. Выканалі ўсе гэтыя заданні, і ў лютым даслалі на конкурс. Праз некалькі месяцаў паведамілі, што мы сталі лепшымі ў вобласці і трапілі ў фінал.

**– На ваш погляд, чаму выбралі працу гімназіі?**

– Лічу, што спадабаліся абгрунтаванне праектаў і нашы гульні – у адну з іх у фінале гулялі каманды.

**– Хто, апроч вас, быў у складзе каманды?**

– Пяць гімназістаў узростам 14-16 год, удзельнікі гуртка "Адлюстраванне" – яго праца накіраваная на развіццё лідарскіх якасцяў.

**– Якія ўражанні засталіся ад фіналу?**

– Атмасфера, у якую мы трапілі, незабыўная. Фінал праходзіў на тэрыторыі комплексу адпачынку і забаў "Бухта Вікінга" непадалёку ад Львова. І для спаборніцтваў, і для адпачынку дзяцей там былі створаны ўсе ўмовы.

**– Што ж было ў фінале?**

– Арганізавалі змешаныя каманды – у кожнай беларусы, украінцы і палякі, для іх прапанавалі шэраг конкурсаў. Дзеці спявалі, танцавалі, вызначалі па партрэтах знакамітых людзей, адказвалі на пытанні па гісторыі трох краін, называлі найбольшую колькасць нацыянальных страў. Словам, былі цікавыя конкурсы, накіраваныя на згуртаванне камандаў. А ў вольны час, напрыклад, маглі развучыць украінскі народны танец – і на закрыцці свята паказвалі, чаму навучыліся.

Па выніках конкурсаў узнагародзілі абсалютна ўсіх удзельнікаў: кожнаму падарылі самакаты, флэш-карты, прысмакі, набор для спартыўных гульняў. А для каманды, якая набрала найбольш балаў, прызоў было яшчэ больш.

У заключны дзень для ўсіх дэлегацый арганізавалі экскурсію па Львове. Потым яшчэ беларуская дэлегацыя наведала Брэсцкую крэпасць.

**–Што дае ўдзел у падобным праекце?**

– Магчымасць падлеткам пазнаёміцца з гісторыяй і культурай, традыцыямі суседніх дзяржаў. Гэта мерапрыемства паказала, што, сапраўды, межаў для зносін дзяцей не існуе. Патрэбна было бачыць, як яны кантактавалі паміж сабой: на розных мовах, дзесьці жэстамі спрабавалі паразумецца.

**– На якой мове збольшага кантактавалі?**

– З украінцамі – пераважна на беларускай, з палякамі – і на беларускай, і на англійскай спрабавалі. Я даўно не чула, каб столькі людзей гаварылі па-беларуску. Аказваецца, і нашы вучні добра валодаюць роднай мовай. Гэта было вельмі прыемна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

*Шаноўны чытач!*
*Падпіска на "РГ" не спыняецца.*
*Не губляй свой шанец – падпішыся!*



Падпісацца на "РГ" можна на пошце ПА ЎСІМ РЭГІЁНЕ.
Падпісны індэкс: **63212** (індывід.), **632122** (ведамасная падпіска)

ТВАЁ ЗДАРОЎЕ

# Прышчэпка абароніць ад ускладненняў

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад сярэдзіны верасня пачалі рабіць прышчэпкі ад грыпу.**

Чаму варта рабіць прышчэпкі ад грыпу, тлумачыць загадчыца аддзела эпідэміялогіі Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Людміла Ермачэнка**:

– Па-першае, вакцына стварае імунітэт супраць грыпу. Па-другое, яна дапамагае прадухіліць небяспечныя наступствы, якія ўзнікаюць ў час хваробы ці пасля яе.

**– Ці магчыма пасля прышчэпкі захварэць?**

– Ніякая вакцынацыя не можа даць гарантыі, што чалавек не захварэе. Усё залежыць ад імунітэту, схільнасці да хвароб і стану здароўя. Калі чалавек і захварэе, то грып будзе працякаць у лёгкай форме.

**– Каму рабіць вакцынацыю неабходна, а каму лепш не прышчапляцца?**

– Вакцына ад грыпу супрацьпаказаная людзям з гіперадчувальнасцю да курынага бялку.

– Ёсць і тыя, каму трэба рабіць прышчэпку, – дадае доктар-эпідэміёлаг **Надзея Батурэвіч**. – Напрыклад, цяжарным жанчынам ў трэцім трыместры.

**– Чым бясплатныя прышчэпкі адрозніваюцца ад платных?**

– Розніца ў краіне вытворцы. Так, напрыклад, платныя прышчэпкі – французскія, расійскія і нідэрландскія. Кошт іх каля 100 тысяч. Бясплатныя – кітайскія. Усе вакцыны сертыфікаваныя, іх штамы аднолькавыя. Таму ўздзеянне на арганізм чалавека тое самае.

**– Людзі часта хварэюць менавіта пасля вакцынацыі. З чым гэта звязанае?**

– Кожны год супрацоўнікі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі і іх сем'і робяць прышчэпкі. Гэта больш за 100 чалавек. Ні ў аднаго з іх не было ўскладненняў.

Да таго ж, кожная арганізацыя аховы здароўя, якая займаецца прышчэпкамі, дае нам інфармацыю аб ускладненнях на грыпозную вакцыну. Не было ніводнага.

Аднак рэакцыя на прышчэпку можа быць розная. Напрыклад, павышэнне тэмпературы.

**– Ці магчыма пазбегнуць негатыўнай рэакцыі на прышчэпку?**

– Па-першае, не трэба яе рабіць, калі ёсць прастуда ці іншыя прыкметы захворвання. Па-другое, трэба цягам 14 дзён імкнуцца не пераахаладжвацца і не кантактаваць з хворымі.

### Каму можна зрабіць бясплатную прышчэпку

Бясплатную вакцыну супраць грыпу могуць атрымаць людзі з высокай рызыкай ускладненняў: людзі з хранічнымі захворваннямі дыхальнай, сардэчна-сасудзістай, эндакрыннай сістэм, парушэннямі функцыі нырак, імунадэфіцытам, асобы, старэйшыя за 65 гадоў, цяжарныя, дзеці да 3-х гадоў, медработнікі, асобы з устаноў з кругласутачным знаходжаннем дзяцей і дарослых.

Таксама бясплатную прышчэпку могуць зрабіць дзецям, якія наведваюць дзіцячыя дашкольныя установы і школы; маладым людзям, якія вучацца ў сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе, і іншым.

Калі ж вы не належаце да гэтых катэгорый, вакцынацыя будзе платная.

Яе можна зрабіць і за кошт сродкаў прафсаюзнага камітэта. Арганізацыі неабходна адшукаць магчымасць выдзеліць грошы на набыццё грыпознай вакцыны і забяспечыць імунізацыю не менш за 40 працэнтаў работнікаў.

Летась у Маладзечанскім раёне перад пачаткам эпідэміі грыпу прышчапілася крыху больш за 36 працэнтаў насельніцтва. Сёлета плануецца прышчапіць не менш за 35 працэнтаў насельніцтва.

Вакцынацыя праводзіцца ў гарадской паліклініцы №1, Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы альбо медыцынскім цэнтры "Салюс", які знаходзіцца па адрасе: Вялікі Гасцінец, 159.

**Святлана АЛЬФЕР.**

ГАНДАЛЬ

# У рэгіёне пройдуць восеньскія кірмашы

**ВІЛЕЙКА. Рэгіянальны кірмаш пройдзе ў суботу, 5 кастрычніка, на плошчы Леніна.**

Як паведаміла начальнік сектара гандлю і паслуг Вілейскага райвыканкама **Аксана Сопрых**, у кірмашы будуць удзельнічаць Вілейскі, Валожынскі, Маладзечанскі, Мядзельскі і Лагойскі раёны.

На кірмашы можна будзе набыць сельскагаспадарчыя тавары, прадукты, саджанцы.

**МАЛАДЗЕЧНА. На плошчы Старое Места ў Маладзечне кірмашы пройдуць 12 кастрычніка і 2 лістапада.**

Галоўны спецыяліст аддзела гандлю і паслуг **Алена Місюкевіч** сказала, што кірмашы пачнуць працу а 10 гадзіне.

**МЯДЗЕЛ. На рынку па вуліцы Заазёрнай кірмаш адбудзецца 19 кастрычніка.**

Пачатак каля васьмі раніцы.

**ВАЛОЖЫН. Кірмашы пройдуць па нядзелях, 13, 20 і 27 кастрычніка.**

Пачнуць працу каля дзевяці раніцы на цэнтральным рынку.

**АШМЯНЫ. Восеньскі кірмаш у Ашмянах адбудзецца ў нядзелю, 13 кастрычніка.**

Пачатак а 9 гадзіне.

**СМАРГОНЬ. У суботу, 12 кастрычніка, кірмаш будзе ў Смаргоні.**

Размесціцца ён на вуліцы Якуба Коласа, пачатак а дзявятай гадзіне раніцы.

**АСТРАВЕЦ. Папярэдне ў Астраўцы восеньскі кірмаш плануюць правесці 12 кастрычніка.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ТРАНСПАРТ

# Падаражэў праезд

**РЭГІЁН. Кошт праезду ў гарадскім пасажырскім транспарце ў Маладзечне ад першага кастрычніка 2 200 рублёў.**

У Вілейцы павышэнне коштаў на праезд пакуль не плануецца, – адказалі ў аўтапарку №5.

Цяпер за кіламетр на цвёрдым сядзенні давядзецца заплаціць 446 рублёў, на мяккім – 464.

– Да Вілейкі з Маладзечна крыху іншыя расцэнкі: 344 рублі на цвёрдым сядзенні і 356 – на мяккім.

Такім чынам, да Вілейкі білет каштуе 9 300 рублёў, да Валожына 16 500, да Радашкавічаў – 16 950 рублёў.

– На маршрутцы пакуль кошт білетаў не павышаецца. Праязны на месяц у Маладзечне можна будзе набыць за 96 400 рублёў, дэкадны будзе каштаваць 33 900, – паведаміла начальнік маладзечанскага аўтавакзала **Людміла Бастынец**.

На пытанне аб павышэнні коштаў за праезд у цягніках і электрычках начальнік маладзечанскага чыгуначнага вакзала **Аляксандр Савачкін** адказаў, што пакуль такога распараджэння няма.

**Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**

СМІ

# Паспрабуйце сябе ў журналістыцы!

**МАЛАДЗЕЧНА. Юнакоў і дзяўчат з усяго рэгіёна, якіх вабіць журналістыка, запрашае "Рэгіянальная газета".**

У нас вы даведаецеся:

– чаму прафесія журналіста – адна з найцікавейшых

– што трэба ведаць і ўмець, каб быць паспяховым журналістам

– як зрабіць так, каб праца ніколі не была сумнай.

Журналісты-практыкі падзеляцца з вамі сваім досведам і параяць, чаго не хапае менавіта вам для поспеху. Вы навучыцеся працаваць над уласнымі артыкуламі, відэа і фота, якія могуць быць размешчаныя ў "Рэгіянальнай газеце" і на сайце rh.by.

Чакаем усіх ахвотных на першую сустрэчу, якая адбудзецца ў пятніцу, 11 кастрычніка, а 14-й гадзіне. З сабой бярыце блакнот і ручку.

Рэдакцыя "РГ" знаходзіцца ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, 68-а. З пытаннямі звяртайцеся па тэлефонах: 8(0176) 76-96-67 і 74-71-00, 8(044) 566-26-99.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

| Курсы валют НБ РБ | 26.09 | 3.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 050,00 | **9 110,00** |
| Еўра | 12 200,00 | **12 310,00** |
| Злоты | 2 897,90 | **2 921,37** |
| Літ | 3 536,47 | **3 570,80** |
| Расійскі рубель | 283,50 | **282,00** |
| Грыўня | 1 106,36 | **1 111,65** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9050/9120 | **9110/9180** |
| Еўра | 12190/12290 | **12300/12420** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 25.09 | 2.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 108900 | **112500** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45500 | **45050** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 70000 | **73000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23500 | **26200** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10000 | **10100** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8900 | **9100** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9000 | **9000** |
| **Алей** | 16200 | **16000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5600** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **8700** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5000 | **5000** |
| **Капуста**, 1 кг | 4800 | **5000** |
| **Морква**, 1 кг | 5500 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 5000 | **5000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **21000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14500 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23000 | **23000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 9500 | **10000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Перац**, 1 кг | 12000 | **9500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 23000 | **23000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 6500 | **6000** |
| **Грушы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 30000 | **30000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 16000 | **15000** |
| **Бульба**, 1 кг | 3000 | **3000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Выбіў пробкі, абрэзаў тэлефон і запісаў абяцанне не здаваць у міліцыю



Фота top-shop.ru.

За разбой дзеля красовак хлопец атрымаў тры гады выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Міжнароднага свята жанчын, 7 сакавіка, 18-гадовы нецвярозы маладзечанец N. вырашыў скрасці грошы ў сваёй састарэлай сваячкі.**

Спачатку ён выкруціў пробкі асвятлення і абрэзаў тэлефонны провад у доме ахвяры. Пасля гэтага з нажом у руцэ пагражаў прымяніць гвалт і скраў у бабулі 700 тысяч рублёў.

N. прымусіў жанчыну паабяцаць, што яна не будзе звяртацца ў міліцыю, і запісаў абяцанне на мабільны тэлефон.

За скрадзеныя грошы хлопец на наступны дзень набыў сабе красоўкі.

Прыгаворам суда Маладзечанскага раёна N. прызнаны вінаватым у пагрозе прымяніць гвалт, небяспечны для жыцця і здароўя пацярпелай з мэтай завалодаць маёмасцю (разбоі). Яму прызначанае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на тры гады з адбываннем пакарання ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці.

Пры прызначэнні штрафу суд улічыў характар і ступень грамадскай небяспечнасці злачынства, а таксама асобу абвінавачанага.

Пастановай судовай калегіі па крымінальных справах Мінскага абласнога суда прызначанае N. пакаранне пакінулі без змяненняў.

Санкцыя па частцы 1 артыкула 207 "Разбой" прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці ці без канфіскацыі.

N. прынёс шмат пакутаў сваім сваякам, якія, нягледзячы на яго ўчынак, шкадавалі хлопца і плакалі ў зале суда.

**Аляксандр ЛЯЎКОВІЧ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Віляйчанка ўкрала ў калегі банкаўскую картку і зняла ўсе грошы

**ВІЛЕЙКА. Крадзеж адбыўся ў Вілейцы 22 ліпеня.**

Мужчына неаднаразова даваў жанчыне сваю картку, каб яна купіла алкаголь. Жанчына запомніла пароль, а калі была на рабоце, з кішэні рабочай сарочкі ўкрала картку. Потым са сваёй знаёмай прыйшла ў банкамат і зняла з яе тры мільёны рублёў.

Мільён яна аддала сяброўцы, а на астатнія купіла гарэлкі і ежы. Картку паклала назад у кішэню.

На судзе 36-гадовая жанчына цалкам прызнала сваю віну. Жанчына пакутуе на хранічны алкагалізм, пазбаўленая бацькоўскіх правоў і абавязаная кампенсаваць расходы на сваіх дзяцей.

Суд прыгаварыў жанчыну да двух гадоў абмежавання свабоды без накіравання ў выпраўленчую ўстанову. А яшчэ назначыў жанчыне прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

**Дар'я ХАДАРОВІЧ, старшы памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

## Расіянін, які незаконна жыў у Беларусі, раз'язджаў за рулём п'яным

**ВІЛЕЙКА. Мужчыну, грамадзяніна Расіі, год таму дэпартавалі з Беларусі і забаранілі прыязджаць у нашу краіну на працягу года.**

Але мужчына парушыў закон, і, не дачакаўшыся некалькі месяцаў, прыехаў у Заслаўе.

Амаль праз два тыдні 38-гадовага мужчыну затрымалі супрацоўнікі Вілейскага ДАІ. Ён нецвярозы раз'язджаў па мястэчку Ілья Вілейскага раёна.

Мужчына цалкам прызнаў сваю віну. Суд прысудзіў яму чатыры месяцы арышту.

**Дар'я ХАДАРОВІЧ, старшы памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Кіроўца ВАЗа памёр у рэанімацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя з яго ўдзелам здарылася вечарам 13 верасня.**

21-гадовы маладзён за рулём аўтамабіля ВАЗ пад'язджаў да Гарадка. Ля дома №90, на закругленні ўлева, ён з'ехаў у кювет.

Кіроўца пры выбары хуткасці не ўлічыў умовы дарогі і надвор'я. Ён наехаў на бетонны насціл на ўездзе ў двор. Ад удару атрымаў сур'ёзныя пашкоджанні, яго даставілі ў рэанімацыю.

На мінулым тыдні малады чалавек памёр у рэанімацыі, паведаміў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Барташ.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СЛУЖБА 101

## Своечасова патушыў машыну

**АСТРАВЕЦ. У суботу, 28 верасня, на вуліцы Валадарскага ў Астраўцы загарэлася машына.**

Каля 14 гадзін гаспадар "Аўдзі 80" ехаў дадому. Мужчына заўважыў, што з-пад капота ідзе дым і выклікаў выратавальнікаў.

Але яшчэ да прыезду супрацоўнікаў МНС сам патушыў узгаранне дзякуючы таму, што меў у машыне спраўны вогнетушыцель.

Паводле слоў інспектара групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алега Шыця**, меркаваная прычына ўзгарання – кароткае замыканне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## На Вілейшчыне гарэла лецішча

**ВІЛЕЙКА. Каля 18 гадзін 27 верасня вілейскім выратавальнікам паступіла паведамленне аб загаранні лецішча ў вёсцы Уладыкі.**

На тушэнне пажару накіраваліся чатыры падраздзяленні райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

– Па прыбыцці выратавальнікаў на месца выкліку дах дома гарэў адкрытым полымем, – паведаміў старшы інспектар Вілейскага РАНС **Дзяніс Гаўрышчук**. – У выніку згарэла частка даху – каля 20 квадратных метраў.

Меркаваная прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі пячнога ацяплення.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Загінуў у пажары, седзячы на канапе

**СМАРГОНЬ. Здарэнне адбылося ў ноч з чацвярга на пятніцу, з 26 на 27 верасня, у вёсцы Аславяняты Каранёўскага сельсавета.**

На месца выязджаў інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду Смаргонскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Сяргей Курчэўскі**. Каля дзвюх гадзін ночы яго выклікалі на здарэнне. Каля 2.20 ён убачыў, што жылы дом гарыць адкрытым полымем, а прыбудаваная да яго павець ужо цалкам згарэла.

Са слоў суседзяў, агонь пайшоў ад павеці.

Труп мужчыны знайшлі на канапе ў кухні. У доме ён жыў разам з маці, якая некалькі месяцаў як загінула.

Мужчыну становіча характарызуюць на працы.

Дазнанне праводзіць Следчы камітэт.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КРАДЗЯЖЫ

## З лецішча ў Вілейскім раёне вынеслі тэхніку

**ВІЛЕЙКА. У перыяд з 22 па 29 верасня злодзей абрабаваў лецішча ў вёсцы Седзіца.**

Належыць яно жыхару Маладзечна.

Каб пранікнуць у дом, злодзей сарваў навясны замок на ўваходных дзвярах. Вынес электрычную газонакасілку, бензакасу, электрагэблік, шліфмашынку, ручную цыркулярную пілу і іншую тэхніку.

– Злодзей выбіраў самае каштоўнае і тое, што лёгка можна прадаць, – дадаў следчы Вілейскага райаддзела Следчага камітэта РБ **Вадзім Пуцэйка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Аднавясковец украў пілу

**ВАЛОЖЫН. З гаспадарчай пабудовы ў Багданаве ўкралі бензапілу і слясарны інструмент.**

– Аператыўнікі, што прыбылі на месца, хутка ўстанавілі асобу таго, хто здзейсніў крадзеж. Ім аказаўся жыхар Багданава 1992 года нараджэння. Малады чалавек нідзе не працуе, раней быў судзімы, – расказаў намеснік начальніка Валожынскага райаддзела ўнутраных спраў **Віталь Мінкевіч**.

**Наталля ТУР.**

## Укралі пакрышкі на 3 мільёны

**ВАЛОЖЫН. З гаража па вуліцы Чапаева невядомыя ўкралі чатыры аўтамабільныя пакрышкі агульным коштам больш за тры мільёны рублёў.**

– Вядзецца пошук асоб, якія маюць дачыненне да здарэння, – паведаміў намеснік начальніка Валожынскага райаддзела ўнутраных спраў **Віталь Мінкевіч.**

**Наталля ТУР.**

КРАДЗЯЖЫ

## У пенсіянеркі скралі вялікую суму грошай

**МАЛАДЗЕЧНА. Невядомыя скралі з дома пенсіянеркі 4000 еўра, 5000 долараў і ...дзве бутэлькі гарэлкі.**

Пра здарэнне расказвае старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

– 27 верасня, раніцай, гаспадыня дома па вуліцы Асіпенкі пайшла па сваіх справах. Калі вярнулася дадому, убачыла, што навясны замок пашкоджаны. У хаце было ўсё перавернутае, а ў гаспадыні не стала чатырох тысяч еўра і пяці тысяч долараў. Зламыснікі прыхапілі з сабой яшчэ і дзве бутэлькі гарэлкі.

Пенсіянерка жыве адна. Ад дачкі з Германіі рэгулярна атрымоўвае грашовыя пераводы. Як паведаміла сама пацярпелая, скрадзеныя грошы яна збірала на працягу трох апошніх гадоў. Асобы зламыснікаў пакуль невядомыя. Вядзецца следства.

**Наталля ТУР.**

ДА ДНЯ НАСТАЎНІКА

# Дзень настаўніка – самае смачнае свята

**МАЛАДЗЕЧНА. Карп па-хажоўску, самураі па-маладзечанску і жывы мядзведзь. Настаўнікі Маладзечаншчыны адсвяткавалі сваё прафесійнае свята весела, шумна і смачна.**

Святкаванне адбылося ў Палацы культуры 2 кастрычніка. Ад самага ранку да палаца з'язджаліся настаўнікі з усяго раёна, але без звыклых атрыбутаў: сшыткаў ды ўказак, а з тартамі, пірожнымі, булкамі, печывам, бутэрбродамі і …сушы.

## Мы – самураі адукацыі

На маё пытанне аб тым, чаму для выставы кулінарных шэдэўраў сацыяльна-педагагічны цэнтр выбраў тэму Японіі, дзяўчаты ў кімано адказалі:

– Таму што мы – самураі адукацыі. У самураяў ёсць свой кодэкс гонару, і ў настаўнікаў ён павінен быць. Галоўная страва нашага стала – фаршыраваны карп. Вось вы ведаеце, што ў Японіі карп з'яўляецца сімвалам мужнасці і стойкасці? Пагадзіцеся, самыя неабходныя якасці і для настаўніка. Да таго ж, хто пакаштуе карпа ў гасцях, таго чакае каханне і багацце. Так што, частуйцеся на здароўе.

## Хажова – азёрны край

Стол Хажоўскай сярэдняй школы таксама упрыгожвалі вялікія карпы, і само аздабленне стала нагадвала люстра возера.

– Праўда, падобна да Ізабеліна? – пытаецца ў мяне настаўнік гэтай школы, заўважыўшы, што я фатаграфую. – Яшчэ ўчора гэта рыба плавала ў возеры ў Ізабеліне. А цяпер упрыгожвае стол.

**– Вы яе самі злавілі, самі прыгатавалі, а есці будуць усе, не шкада сваёй працы?**

– Што вы, не. Наадварот, хочацца падзяліцца, пачаставаць калег. З задавальненнем падзялюся і рэцэптам, калі хто папросіць.

**– А як вас завуць?**

– Напішыце проста: настаўніца музыкі. Да выставы рыхтаваліся ўсёй школай, няправільна будзе не назваць усіх.

## Частуйцеся сонейкам

Самым сонечным сталом я б назвала калектыўную працу дзіцячых садкоў №№10, 14 і Маркаўскага дзіцячага садка. На стале красаваліся не толькі тарты-сонейкі, але і былі раскладзеныя піrожныя-кубікі, на якіх лёгка чытаўся надпіс: “З Днём настаўніка!”

– Ой, – замілоўваюся я, – сапраўды, як у дзіцячым садку

– Прафесія абавязвае. Частуйцеся, калі ласка, – гаворыць мне выхавальніца **Тамара Войніч**.

**– А не шкада рэзаць такую прыгажосць?**

– А для чаго ж мы яе рабілі? Прыгажосць звонку, гэта толькі так, для фатаграфіі добра. А каб пакінуць аб сабе прыемныя ўражанні і ўспаміны, неабходна, каб хтосьці пакаштаваў.

**– А хто рабіў гэту прыгажосць?**

– Мы, педагогі. Гэта так здорава, што ёсць такія мерапрыемствы. Учора мы сабраліся ўсім нашым невялікім калектывам, прыгатавалі, пагутарылі. Таму і стол такі душэўны.

## А ці не махнуць нам да цыганоў?

Па-цыганску маляўніча і весела прадставіла сваю выставу “Сярэдняя школа №12”.

Вобраз цыганкі-варажбіткі прымерала на сябе псіхолаг школы **Ганна Пятроўская.**

**– Скажыце, чаму вы выбралі вобраз цыганкі?**

– Мне падаецца, што гэта самы яркі вобраз, з якім можа асацыявацца кірмаш. Намеснік дырэктара прапанавала гэты вобраз, мы ўсе пагадзіліся. Так што атрымаўся такі табар настаўнікаў, як бачыце, нават са сваім мядзведзем, які і танцуе, і песні спявае.

У вялікім плюшавым мядзведзі пазнаю настаўніка фізкультуры **Аляксандра Субача.**

**– Спадар Аляксандр, як вы пагадзіліся на ролю мядзведзя?**

– Па-першае, мне самому гэта цікава, зноў жа, касцюм цёплы. Ніякія халодныя батарэі не страшныя, а па-другое, дзяўчаты сказалі, што ў грыме мяне ўсё роўна ніхто не пазнае.

**– Я бачу, у вас адзін з самых вялікіх сталоў на гэтым свяце. Усе настаўнікі ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы?**

– Мы вырашылі так, – распавядае намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Наталля Шыцік**. – Дзень настаўніка – гэта свята не толькі нашае, настаўнікаў, але і вучняў, і іх бацькоў. Таму рыхтавалі прысмакі, як гаворыцца, усім светам.

## Каб я так жыў!

Здзівіла сваімі кулінарнымі шэдэўрамі і Красненская сярэдняя школа. На стале ў іх стаяла бочачка… з чырвонай ікрой. На ёй – надпіс: “Каб так жылося ўсім настаўнікам!”

**– Неверагодна, гэта торт такі?**

– Так. Торт-пажаданне. Каб ва ўсіх на стале была такая бочачка з сапраўднай ікрой.

**– А чаму ж не частуеце прысутных?**

– Чакаем начальства. Мы між сабой так і называем гэты торт: “Дырэктарскі”. Прыедзе дырэктар і вырашыць, каму ён дастанецца. Але, мяркуем, загадае разрэзаць і падзяліць. Шчодры ў нас дырэктар.

Чыя была ідэя на Дзень настаўніка стварыць такую прыгажосць, пытаюся ў начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Іны Драпезы**, якая таксама прысутнічае на гэтым свяце.

– Я не магу сказаць, што гэта была новая ідэя. Але мы вырашылі, што свята для беларусаў – гэта перш за ўсё частаванне самымі смачнымі стравамі. А паколькі мы не можам запрасіць усіх настаўнікаў раёна ў рэстаран, мы вырашылі павіншаваць адзін аднаго такім чынам.

**– Скажыце, а гэта конкурс? Як будзеце вызначаць пераможцу?**

– Вы бачылі, якую прыгажосць зрабілі нашы настаўнікі? Як можна ўзнагародзіць ляльку Барбі, зробленую з крэму, і не ўзнагародзіць вожыкаў? Або ўзнагародзіць толькі салодкія вырабы і не заўважыць фаршыраваных карпаў і курыцу, мясныя рулеты і канапкі з кілбасы? Таму пераможцаў не будзе. Усе – вялікія малайцы!

**– А што вам асабіста спадабалася больш за ўсё?**

– Я прасіла калег падзяліцца рэцэптам гэтых страў. Буду частаваць на свята сваіх дамашніх.

**– А вы ўжо павіншавалі настаўнікаў, што вучылі вас?**

– На жаль, я рэдка бываю ў сваёй школе, каб павіншаваць усіх маіх настаўнікаў асабіста, таму павіншую праз вашу газету ўсіх настаўнікаў Маладзечаншчыны. Паважаныя настаўнікі! Я вам жадаю, каб ваша дзейнасць заўсёды прыносіла вынік. Жадаю вам задавальнення ад працы, творчасці, поспехаў, натхнення, акрыленасці ў справах. І, вядома, шчасця ў асабістым жыцці.


Фота Наталлі ТУР.

Настаўнікі-самураі. Бывае і такое!



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru



СПОРТ

## “Маладзечна-ДЮСШ-4” выйграе 2:1

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА.** У 21-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе “Маладзечна-ДЮСШ-4” 28 верасня дома гуляла з камандай “Ліваздзія-Юні” (Дзяржынскі раён).

Маладзечанцы атрымалі перамогу з лікам 2:1. Абодва галы забіў **Бугай**, паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.

“Забудове-2007” залічана паражэнне ў матчы з ФК “Старыя Дарогі” з лікам 0:3.

“Вілія” з Вілейкі ў гэтыя выхадныя не гуляла: матч з “Жодзіна-2007” перанесены.

## Турнір на прызы “Надзеі”

**ВІЛЕЙКА.** 28 і 29 верасня ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры “Надзея” прайшоў традыцыйны турнір па настольным тэнісе на прызы гэтага цэнтра.

Пераможцамі турніру сталі: паміж жанчын – **Аксана Альфер** (ДРАЦ “Надзея”), сярод мужчын – **Віктар Кляўда** (“Буддэталі”). Лепшыя гульцы ўзнагароджаныя дыпломамі і грашовымі прэміямі.

## Спартакіяду выйграў цэнтр “Зубраня”

**МЯДЗЕЛ.** Раённая спартакіяда па летнім мнагаборстве “Здароўе” сярод арганізацый і ўстаноў раёна прайшла 28 верасня ў Мядзеле.

У праграме былі наступныя віды: бег на 60 метраў, крос на 1 кіламетр, падцягванне на перакладзіне, скачкі ў даўжыню з месца.

– Пераможцай стала каманда НДЦ “Зубраня”, другое месца – у Нарачанскага філіяла Маладзечанскага малочнага камбіната, трэцяе – у прадстаўнікоў Мядзельскай ЖКГ, – паведаміў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Леанід Шыдлоўскі.**

У асабовым першынстве перамог **Андрэй Пахатных** з НДЦ “Зубраня”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАПРАЎКА

## Выпраўляем памылку

У 38-м нумары “Рэгіянальнай газеты” дапушчаная недакладнасць у артыкуле “Нямецкім гімназістам спадабаліся лазня і піца”.

Дырэктар сярэдняй школы №5 – Яўген Макарэвіч.

Аўтар просіць прабачэння ў Яўгена Макарэвіча і чытачоў.

**Рэдакцыя “РГ”.**

# С Днём учителя!

6 октября

**алми**
СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136**
**ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28**

только в универсаме — алми — 36900 — скидка 25%
П/ф Шницель Полесский 1кг РБ
Состав: цыплята, хлеб пшеничный, масло сливочное, яйцо, перец черный молотый, приправа универсальная, приправа к курице, вода.

только в универсаме — алми — 64900 — скидка 25%
Филе птицы в сыре 1кг РБ
Состав: цыплята, сыр, яйцо, масло растительное, перец черный молотый.

только в универсаме — алми — 44900 — скидка 25%
Салат Боярский новый 1кг РБ
Состав: язык, картофель, морковь, яйцо, огурцы свежие, чернослив, майонез, зелень.

только в универсаме — алми — 44900 — скидка 25%
Пирожное Медовый орешек 1кг РБ
Состав: мука в/с, масло растительное, арахис, сахар, мед, яйцо, чернослив, молоко сгущенное вареное.

8900 — скидка 20%
Банан 1кг Коста-Рика

20900 — скидка 15%
Мороженое Биг Топ Сливки-Клубника 450г РБ

6500 — скидка 20%
Спред Крестьянский жир.72.5% 185г РБ

7500 — скидка 20%
Масло Шоколадное жир.55% 185г РБ

39900 — скидка 20%
Ветчина вареная Смак Люкс 1кг РБ

66900 — скидка 20%
Колбаса в/к Сервелат Московский Особый в/с 1кг РБ

36500 — скидка 15%
Колбаса вареная мясная Докторская Плюс в/с 1кг РБ

35900 — скидка 20%
Мойва подкопченная Двинская 1кг РБ

29900 — скидка 25%
Филе Минтая с/м 1кг Китай

только в универсаме — 34900 — скидка 20%
Креветки в панцире Вичи Люкс 500г РФ

6900 — скидка 20%
Гречка Ядрица 800г РФ

только в универсаме — 5950 — скидка 20%
Макаронные изделия Сельва 500г Турция
Спагетти/Бантики

20100 — скидка 20%
Готовый завтрак Фитнесс Нестле 250г РФ

только в универсаме — 11900 — скидка 25%
Соус Кухмастер 500г РФ
Итальянский/Сацебели/Татарский

только в универсаме — 10900 — скидка 20%
Шампиньоны резаные Колумб 400г Китай

только в универсаме — 10900 — скидка 25%
Ананасы ломтики Колумб 565г Китай

14650 — скидка 20%
Вода минеральная Боржоми 1л Грузия

7650 — скидка 20%
Нектар №1 с мякотью 1л РБ
Яблоко-Абрикос/Мультифрукт/Персик-Апельсин

только в универсаме — 13950 — скидка 20%
Чай черный Липтон 20пак*1.36-1.8г РФ
Лесные ягоды/Тропические фрукты

28950 — скидка 20%
Кофе растворимый Нескафе Классик 150г РФ

7950 — скидка 20%
Шоколад Любимая Аленка 100г РБ
Производитель: СОАО «Коммунарка»

только в универсаме — 8950 — скидка 20%
Конфеты Турончики 200г Украина

8500 — скидка 25%
Печенье сахарное Топленое Молоко 420г РФ

3200 — скидка 25%
Вафли с начинкой 100г РБ
Артек/Черноморские/Южные
Производитель: СП ОАО «Спартак»

7750 — скидка 20%
Круасаны мини Яшкино 180г РФ Клубничный джем/Сливочный крем/Шоколадный крем

3950 — скидка 20%
Снеки картофельные Козырные 60г РБ
Сметана с луком/Сливочный сыр

9500 — скидка 20%
Освежитель воздуха Ультра Компакт 300мл Турция В ассортименте

17900 — скидка 20%
Колготки женские Саванна 40ден Польша В ассортименте

57900 — скидка 25%
Стиральный порошок Бимакс Автомат 3кг РФ 100 пятен/Колор

8500 — скидка 20%
Зубная паста Силка Дент 130г Германия Целебные травы/Отбеливающая/Семейная

только в универсаме — 27900 — скидка 20%
Универсальное средство Доместос 24 часа 1л РФ
В ассортименте

8900 — скидка 25%
Бумага туалетная Сипто Деко Классик 4шт РБ

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ СО 2 ПО 15 ОКТЯБРЯ 2013 ГОДА**


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

ТВОРЧАСЦЬ

# Дзяўчына выдала кнігу ў 16 гадоў – як атрымалася?

**Цяпер Дэкле Кафтарадзі 23 гады. Яна працуе ў Вільні ў Літоўскай акадэміі музыкі і тэатра, піша сцэнары і займаецца драматургіяй.**

Дэкле пачала пісаць яшчэ дзяўчынкай, гадоў у 12. Яна заўсёды шмат чытала, і кнігі сталі часткай яе жыцця.

Першую ўласную кнігу яна выдала сем гадоў таму, у 2006 годзе, тыражом каля дзвюх тысяч. Другую надрукавалі тыражом 1500 асобнікаў праз два гады, у 2008 годзе. Першая распавядае пра дзяўчыну і яе перажыванні, а другая – пра хлопца і яго захапленні, думкі.

– Цяпер я бачу, што гэтыя кнігі пра падлеткаў і напісаныя ў падлеткавым стылі, – заўважае аўтарка.

Дэкле не давялося шукаць сабе выдавецтва. Тады яна яшчэ не была ўпэўненая, ці ёсць штосьці значнае ў напісаным. Аднак дзяўчыну падтрымала маці, якая мела знаёмых у выдавецтве. Адна з яго работніц узяла пачытаць рукапіс, потым дала і свайму бацьку, вядомаму перакладчыку. Напісанае ім спадабалася, таму яны дапамаглі выдаць кнігу.

Калі рыхтавалася да друку другая кніга, Дэкле ўжо напрамую супрацоўнічала з выдавецтвам, якое і прапанавала выдаць кнігу.

– Выдавецтва зацікавіла тое, што кнігі напісаў вельмі малады аўтар.

**Крокі, якія прайшла Дэкле:**

1. Кансультацыя з выдавецтвам
2. Зварот ў Міністэрства культуры, каб атрымаць грант на выданне кнігі
3. Праца з рэдактарам выдавецтва над удасканаленнем тэкста
4. Распрацоўка дызайну вокладкі разам з мастакамі
5. Здача ў друк

## Напісаў добрую кнігу – атрымай грант на выданне

**Вітаўтас Алішаўскас** прысвяціў выдавецкай справе 20 гадоў свайго жыцця. Увесь гэты час ён кіраваў літоўскім выдавецтвам, якое займалася выданнем філасофскай, гістарычнай і мастацкай літаратуры. Апошняй менш за ўсё. Часцей сустракаецца паэзія, чым проза.

– Вельмі рэдка прыносіць кнігу хтосьці з вуліцы, – распавядае спадар Вітаўтас. – Тэарэтычна гэта магчыма, але я не ведаю выпадкаў, каб нехта прыйшоў, прынёс рукапіс і сказаў: "Вось!" Да таго ж, трэба бачыць розніцу паміж мастацкай літаратурай і інтэлектуальнай. Вядома, мастацкую многія спрабуюць пісаць і мараць выдаць кнігу.

**– Калі з вуліцы не прыходзяць, то адкуль?**

– Калі пісьменнік вядомы, ён можа прыйсці ў выдавецтва, сказаць, што плануе напісаць пэўную кнігу ды прапанаваць яе выдаць. Здараецца і адваротнае, калі выдавец звяртаецца да аўтара з прапановай надрукаваць тое, што ён плануе напісаць.

**– Людзі якога ўзросту прыходзілі да вас выдаваць кнігу?**

– Некаторыя мае аўтары былі вельмі маладыя і выдавалі кнігу праз тры гады пасля заканчэння ўніверсітэта. А некаторыя – наадварот, ледзь не пенсійнага ўзросту. Увогуле, маладыя больш актыўныя, яны напоўненыя творчым парывам.

**– Ці кожны можа выдаць кнігу?**

– Трэба бачыць розніцу паміж сур'ёзнымі выдавецтвамі, якія маюць сваё крэда, ідэалогію, і іншымі. Калі ў чалавека шмат грошай, ён можа пайсці ў якое-небудзь не вельмі салідное выдавецтва і сказаць: "Вось, я даю вам грошы, давайце, патурбуйцеся, каб надрукаваць кнігу". Такая самадзейнасць у Літве не вельмі папулярная, можа, некаторыя паэтыаматары гэтым і займаюцца. А што? Пайшоў, выдаў дзвесце экзэмпляраў паэтычнай кніжыцы і раздаў сябрам. А што сябры не ўзялі, сваякі забяруць.

**– Ці магчыма выдаць кнігу без укладання грошай?**

– У Літве існуе шмат розных спосабаў фінансавання. Прычым фінансуюць не толькі папулярныя раманы, але і інтэлектуальную літаратуру, паэзію. Дапамагаюць Міністэрства культуры, фонд культуры, літоўскі фонд навукі. На самой справе, існуе шмат магчымасцяў. Ёсць пісьменнікі, якія хочуць абысці выдавецтва і выдаць свае кнігі самастойна, таму што спадзяюцца такім чынам больш зарабіць, але гэта таксама выключэнні.

**– Гэта значыць, калі чалавек напісаў добрую кнігу, у яго ёсць магчымасць атрымаць на яе грант?**

– Хутчэй выдавецтву, якое яе выпускае. Грант на напісанне кнігі таксама можна атрымаць, але гэта ўжо іншая справа. Звычайна гэта тычыцца навуковых даследаванняў. Для напісання мастацкай літаратуры існуюць стыпендыі.

**– Ці ёсць пэўныя тэндэнцыі ў выбары тэмы для кніг?**

– Увогуле, літоўскія пісьменнікі папулярныя ў Літве. Ды і што б ні напісаў аўтар, калі ён піша добра, на яго заўсёды знойдзецца чытач. Цяпер попытам карыстаюцца літоўскія раманісты. Іх кнігі не толькі купляюць, але і шырока абмяркоўваюць. Зразумела, што філасофскія, класічныя, культуралагічныя сачыненні заўсёды цікавяць людзей. Калі яны ўваходзяць у школьную ці універсітэцкую праграму, рынак гарантаваны.

**У кожнага выдавецтва ёсць свае пажаданні, нават ідэалагічныя. У Літве існуе "левае" выдавецтва "Іншыя кнігі", класіку яны выдаваць не будуць. Там любяць розныя радыкальныя рэчы, у тым ліку левага накірунку.**

**– Якія крокі трэба прайсці, каб выдаць кнігу?**

– Трэба знайсці выдавецтва, якому кніга будзе падыходзіць па накірунку, і прапанаваць выдаць. Усё астатняе – яго справа. Калі выдавецтва палічыць кнігу цікавай, прыбытковай, то надрукуе. Існуюць выдавецкія планы, распрацаваныя прыкладна на год. Аўтар заўсёды спазняецца, бо ўвесь час жадае зрабіць кнігу яшчэ лепшай. Адняць рукапіс, які пісьменнік лічыць недасканалым, цэлая праблема.

**– Якімі тыражамі выдаюць кнігі?**

– Ад 200 да пяці тысяч асобнікаў. Тыраж залежыць ад таго, ці можа кніга стаць бестселерам. Для таго, каб надрукаванае лічылася афіцыйным выданнем, трэба, каб было больш за 100 асобнікаў. Тыраж кнігі сярэдняй купляльнасці ў Літве – ад 800 да 1200 асобнікаў. Лічыцца, што паспяховую кнігу раскупляюць за чатыры гады.

**– Ці шмат у кніжных крамах кніг літоўскіх пісьменнікаў?**

– Калі мы гаворым пра мастацкую альбо філасофскую літаратуру, то такая літаратура пераважна перакладная. У вобласці літоўскай гісторыі, мабыць, 90 працэнтаў. Увогуле, літоўскіх аўтараў на кніжных паліцах менш, чым замежных, але гэта нармальна. Літва адкрытая для ўсяго свету, таму кнігі перакладаюцца з самых розных моў.

**– Ці можаце прыгадаць самую незвычайную кнігу, якую трымалі ў руках?**

– Гэта быў пераклад французскай паэзіі, вершы са шматлікімі граматычнымі метафарамі. Зборнік выглядаў як школьны нататнік.

**– Літоўцы выдаюць свае кнігі на роднай мове?**

– Калі хочаш быць папулярным, то трэба выдаваць кнігі на мове краіны, у якой жывеш.

**Настасся РОЎДА.**



Фота Настасві РОЎДЫ.

Шмат літоўскіх выдавецтваў сабралася на кніжным фестывалі ў Вільні.



Фота Настасві РОЎДЫ.

Літоўская аўтарка Дэкле Кафтарадзі.



Фота Настасві РОЎДЫ.

Вітаўтас Алішаўскас кіраваў выдавецтвам на працягу 20 гадоў.

**ТВОРЧАСЦЬ**

# “Беларускія выдавецтвы падтрымліваюць родную мову”

**Да такой высновы прыйшоў малады пісьменнік з Вілейкі Андрэй Дзічэнка, калі пачаў шукаць шляхі, каб выдаць уласную кнігу.**

У свае 24 гады Андрэй мае тры кнігі. У 2010 годзе выйшла першая з трылогіі “Мінскае неба”. Яшчэ праз два гады – “Анамаліі.Inferno” і “Схема.DFT”. Напісаныя яны ў духу метарэалізму, на мяжы свядомасці і чагосьці іншага, неспазнанага, вызначае Андрэй. Дарэчы, сёлета выйшаў і яго зборнік расказаў “Ты – мяне”.

Усе гэтыя кнігі аўтар выдаў праз маскоўскае выдавецтва электронных кніг.

На пытанне, чаму маскоўскае, а не беларускае, Андрэй адказвае так:

– Таму што я пішу на рускай мове. Я з радасцю б выдаваў кнігі тут, калі б рускамоўная літаратура нароўні з беларускамоўнай называлася беларускай.

**– Ці значыць гэта, што беларускамоўную літаратуру ў нас прасцей выдаць, чым рускамоўную?**

– Наколькі мне вядома, існуе сістэма еўрапейскіх грантаў, якія скіраваныя на выданне беларускамоўнай літаратуры. Рускамоўныя аўтары сыходзяць на маскоўскі рынак. Напрыклад, кнігу Тацццяны Заміроўскай “Жыццё без шуму і болю” выдалі ў Маскве. Там жа пабачыла свет і кніга Андрэя Астравумава “Дудзі Дубі Ду”. Я, вядома, не бяруся адказваць за ўсіх, аднак сапраўды няшмат беларускіх незалежных выдавецтваў працуюць з рускай мовай.

Цяпер кнігі аўтара можна знайсці на інтэрнэт-партале ва ўсіх даступных фарматах электронных кніг.

– Паміж парталам і бібліятэкай ёсць значная розніца, – тлумачыць Андрэй. – Бібліятэка – гэта месца, дзе ціха. У тым ліку і ў сецціве. На партале ж жыццё кіпіць.

**– Чаму ўсё ж не друкаваная кніга, а віртуальная?**

– Гэта зручна, таму што электронныя кнігі становяцца ўсё больш папулярнымі. Ды і дрэвам не так страшна, – усміхаецца Андрэй.

Кнігу можа зайсці і сцягнуць кожны. Таксама яе можна свабодна размяшчаць і на іншых інтэрнэт-рэсурсах. Гаворка пра аўтарскія правы не ідзе. Адзінае, на партале ёсць магчымасць “сказаць аўтару дзякуй грашыма”. Гэта значыць, калі чытачу вельмі спадабаецца кніга, ён можа пералічыць аўтару пэўную суму грошай.



Фота забяспечана Андрэем ДЗІЧЭНКАМ.

**Андрэй Дзічэнка нарадзіўся ў Калінінградзе. Потым пераехаў, жыў і вучыўся ў Вілейцы. Пасля заканчэння вілейскай гімназіі “Логас” паступіў у Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка на гістарычны факультэт. Скончыўшы навучанне, пачаў працаваць журналістам у мінскім часопісе.**

– Увогуле, аўтарскія правы – паняцце састарэлае, – лічыць Андрэй. – Культурны абмен не прымае абмежаванняў. Калі маю кнігу капіруюць і размяшчаюць дзенебудзь яшчэ, то гэта элемент прызнання.

**– А ці магчыма кнігай зарабіць?**

– Сёння літаратурнай працай не заробіш. Вядома, калі ты не канвеер па стварэнні дэтэктываў і жаночых раманаў.

**– Ці ўкладаў грошы, каб кніга з’явілася?**

– Не, грошы не спатрэбіліся. Любы чалавек можа без усялякіх укладанняў выдаць інтэрнэт-кнігу, калі яна пройдзе рэдакцыйны адбор.

**Старонкі “беларусь-еўрасаюз” падрыхтавала**



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

# Якія кнігі набываюць літоўцы, а якія – беларусы

**У віленскай і маладзечанскай краме ў топе самых папулярных адна і тая ж кніга. Аднак у іншым густы разыходзяцца.**

Што ж у нас агульнае, а што – рознае?

## У віленскай кнігарні

Знаходзіцца яна непадалёк ад Віленскага ўніверсітэта. У ёй самы вялікі выбар англамоўных кніг ва ўсім горадзе.

Адразу ля ўвахода за шклом стаіць 10 найпапулярнейшых кніг мінулага тыдня. Амаль усе іх аўтары нарадзіліся ў Літве.

Тэмы самыя разнастайныя: адна кніга распавядае пра мастака, другая – пра рэлігію, трэцяя – філасофію, чацвертая – логіку, пятая – фінансы, іншыя – пра гістарычныя падзеі.

– Большасць літаратуры ў нас цяпер купляюць не камерцыйнай, а акадэмічнай, – заўважае прадавец у кнігарні **Айстэ Янкевічутэ**. – Падручнікі па мовах, медыцыне. Набываюць з ахвотай і кнігі, якія толькі-толькі паступілі ў продаж. “Навінкі” асабліва цікавяць нашых частых наведнікаў. Увогуле ў дзень мы прадаём ад 50 да 100 кніг.

Між іншым, літоўцы цяпер цікавяцца і эсэістыкай.

– Вось гэтыя найбольш папулярныя, – паказвае Айстэ на кнігі літоўскіх пісьменнікаў Айдаса Марчэнаса і Данальдаса Каёкаса, якія пішуць якраз у такім жанры.

У нашай краме купляюць і шмат англамоўных кніг. Цяпер вельмі папулярная кніга “50 shades of gray” (“50 адценняў шэрага”). Некалькі месяцаў таму людзі набывалі вельмі шмат асобнікаў, прычым усе тры часткі.

## У кнігарні Маладзечна

Самая буйная маладзечанская кнігарня штодзень прадае каля 200 толькі мастацкіх кніг.

У краме ёсць стэнд з самымі папулярнымі кнігамі месяца. Сярод іх, як і ў віленскай краме, ёсць сучасны раман Э. Л. Джэймс “50 адценняў шэрага”.

– Набываюць фантастыку, напрыклад, кнігі амерыканскага пісьменніка-фантаста Джорджа Марціна, – распавядае прадавец кнігарні **Тацццяна Мучынская**. – Бяруць і кнігі амерыканскай аўтаркі Стэфані Маер. Дэтэктывы папулярныя, рускія пісьменніцы Дар’я Данцова і Аляксандра Марыніна ў топе ўжо гадоў дзесяць.

Моладзь бярэ кнігі серыі “Сталкер”. Сталыя ж людзі – букіністыку, бо яна танная.

– Класіку бяруць, Гогаля, Булгакава, – адзначае спадарыня Таццяна. – Шмат кніг бралі савецкага пісьменніка Валянціна Пікуля. Прычым класіку бяруць не толькі навучэнцы ці студэнты, у якіх яна па праграме, але і тыя, каму яна проста па сэрцы.

## Беларускія кнігі бяруць дзецям

– Беларускія кнігі бяруць больш дзецям, – працягвае Таццяна Мучынская. – Напрыклад, нашага маладзечанскага аўтара **Янкі Галубовіча**. Карыстаюцца попытам і беларускія кнігі серыі “Кнігазбор”. Тым больш, што яны ладзяць розныя акцыі, накшталт, пры пакупцы кнігі – паштоўка ці дыск у падарунак.

Набываюць і кнігі маладзечанскіх аўтараў, унутры якіх стаіць аўтограф. Напрыклад, **Лідзіі Гардынец** ці **Міхася Казлоўскага**.

Таццяна Мучынская адзначае, што продаж кніг залежыць і ад кошту.

На паліцы з дзіцячымі кніжкамі стаіць зборнік казак за 150 тысяч рублёў. Не ўсе бацькі могуць сабе дазволіць набыць яго.

**Даведка “РГ”. Эсэістыка.** Кароткая проза. Як правіла, аб’ём эсэ складае ад 4-5 да 30-40 звычайных машынапісных старонак.



Фота Настассі РОЎДЫ.

**“Топ-10” самых папулярных кніг мінулага тыдня ў віленскай кнігарні.**

АЎТАСПОРТ

# Прайшло восеньскае ралі старых аўто

**ВІЛЕЙКА. У Вілейскім раёне 28 верасня прайшло восеньскае ралі аматарскага чэмпіянату па аўтаралі “Сезон”, у якім збольшага прымалі ўдзел савецкія аўто.**



Фота забяспечана Аляксандрам ЖОСАМ.

Падчас спаборніцтваў на аўтадроме ў Вілейцы.

Ралі ўключала дарожныя спаборніцтвы па маршруце Мінск–Забароддзе, спаборніцтвы на аўтадроме Вілейкі і начныя этап ля Заброддзя.

Пра тое, як праходзіла ралі, пагутарылі са старшынёй Беларускага клуба аматараў аўтамабіля “Запарожац” **Аляксандрам Жосам**:

– У спаборніцтвах узялі ўдзел 13 экіпажаў, пераважна аматары аўтаспорту з Мінска. З іх у трэцяй групе было дзесяць аўтамабіляў і ў пятай – тры.

Ралі складалася з трох частак. Першая – гэта дарожныя спаборніцтвы на раўнамернасць ходу. Гэта азначае рухацца па стэнаграме, ці, як яе яшчэ называюць, “легендзе” ад аднаго пункта кантролю часу да іншага, паводле задання. Стэнаграма і маршрут прапісаныя ў дарожнай кнізе. Экіпаж абавязаны выканаць дзеянні, прадпісаныя заданнем у рамках адведзенага для гэтага задання часам.

Напрыклад: заданне прайсці маршрут з пункта А ў пункт Б з сярэдняй хуткасцю 45 км у гадзіну. Пры гэтым невядомыя адлегласць і месца фінішу. І вось экіпаж, прытрымліваючыся ўказанняў дарожнай кнігі, едзе з хуткасцю 45 км да невядомай мэты. Пры гэтым карыстаецца падказкамі, прыкладна такімі: “ад білборда такога праз 2300 метраў павярнуць налева”. Захоўваць сярэднюю хуткасць не проста, перашкаджаюць іншыя ўдзельнікі руху, а часам і самому неабходна прытармазіць, каб удакладніць што-небудзь.

Значыць, неабходна нагнаць, паддаць газу. І тут узнікае пытанне, на колькі паддаць і колькі трэба праехаць кіламетраў, каб нагнаць страчаны час. Гэта ўжо залежыць ад майстэрства штурмана.

Іншыя заданні таксама не лягчэйшыя, ды яшчэ і засаду можна ўладкаваць на шляху. На гэты раз ваша зямлячка, прыгожая дзяўчына Юля, інсцэніравала паломку аўтамабіля і выставіла знак “SOS”, што азначае “патрабуецца дапамога”. У арганізатара гэты конкурс праходзіць пад назвай “Бландзінка на дарозе”, і Юля справілася з пастаўленай задачай. Не ўсе змаглі адказаць на яе наіўнае пытанне.

**– Якія яшчэ цікавыя конкурсы былі?**

– Цікавым і ў той жа час пацешным лічу конкурс “Зайчыкі”: спартсменам неабходна было палічыць колькасць драўляных зайчыкаў на падворку Таццяны Іосіфаўны з вёскі Шчарка. Вырабляе пажылая жанчына зайчыкаў сама. А яшчэ яе двор засяляюць коцікі, лісічкі, пеўнікі і іншыя жывёлы.

Другая частка – гэта дадатковае спаборніцтва. На жаль, не змаглі даставіць рэквізіт (аўтамабіль) для адпрацоўкі навыкаў у тушэнні яго ўзгарання. Давялося абмежавацца спаборніцтвамі на аўтадроме. Гледачы, якія прыйшлі на аўтадром, маглі бачыць, як закладвалі пілоты руль і вішчалі тармазы.

Трэцяя частка складалася яшчэ з дзвюх частак. Спартсменам даваўся час на “прыкатку” і самастойнае прапісванне маршруту, каб потым ноччу, на лясной дарозе ля Заброддзя, паказаць лепшы вынік. А гэта, я вам скажу, і складана, і небяспечна.

Асноўная барацьба разгарнулася ў трэцяй групе, сярод “Масквічоў” і “Жыгулёў”. У выніку перамог Уладзімір Зізюк на аўтамабілі “Масквіч-2140”.

**– Чаму выбралі Вілейшчыну для правядзення ралі?**

– Пры выбары маршруту для ралі сыходжу з некалькіх патрабаванняў. Першае – грунтоўкі павінны быць па магчымасці гладкімі. Так, на ўчастку ўздоўж воднага канала дарога дазваляла трымаць прыстойную хуткасць.

Другое – павінна быць прыгожа. Едзеш і любуешся: якая прырода, домікі, азёры. А ў Вілейскім раёне гэтага ў дастатку. Ды і сама Вілейка як з паштоўкі. Дагледжаная, чысценькая. Быў бы час – узяў бы марозіва і пагуляў па цэнтры, разглядваючы будынкі, людзей, афішы і, вядома, фантан. Для чаго гэта? Адна з задач ралі – паказаць, якія ёсць выдатныя мясціны ў нашай краіне.

**– Які аўтамабіль выклікаў найбольшую цікавасць у гледачоў?**

– Мабыць, самым яркім аўтамабілем ралі быў “Опель-Адам” 1932 года выпуску. Выдатна рэстаўраваны, глядзіцца цудоўна. Яму б не ў ралі выступаць, а ў музеі красавацца. Добра глядзяцца “Масквічы” ад клуба “Мінскі Масквіч”. Размешчаныя на аўтамабілях рэкламныя налепкі адпаведныя размалёўцы тых слаўных часоў, калі “Масквічы” на роўных біліся ў ралі з іншаземнымі аўто.

**– Назаўтра ва ўдзельнікаў ралі культурная праграма: знаёмства з мемарыяльным комплексам “Памяці падзей Першай сусветнай вайны” ў Заброддзі. Якія ўражанні засталіся ад наведвання, ад знаёмства з сям’ёй Цітовічаў?**

– Барыс Цітовіч – унікальны чалавек. Ды што там Барыс Барысавіч, усе ў сям’і Цітовічаў – унікальныя людзі.

І напрыканцы хачу сказаць: спяшайцеся жыць, а то за працай або камп’ютарам пройдзе жыццё. Усіх грошай не зарабіць, ва ўсе гульні не згуляць, бо жыццё адно. Адзін са спосабаў актыўнага адпачынку – ралі “Сезон”. Далучайцеся!

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ

# “Маладзечна - 2013” – “Зорка - БДУ”. Лік гульні 3:3

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю на гарадскім стадыёне адбылася чарговая гульня каманды “Маладзечна - 2013”. Супернікам стала сталічная каманда “Зорка - БДУ”.**

Нягледзячы на сонечнае надвор’е, аматараў гульні на стадыёне амаль не было. І сам матч пачаўся з непаразуменняў. Спачатку не працавала электроннае табло. Таму, калі на першых хвілінах гульні першы мяч уляцеў у вароты маладзечанцаў, мала хто гэта зразумеў. Да таго ж, на табло памылкова з’явіўся вынік 1:0 на карысць каманды “Маладзечна”.

На 15-й хвіліне матча ўсё нарэшце становіцца на свае месцы. Гульня ў сваёй большасці праходзіць на палове поля маладзечанцаў. Каманда мінчан моцная, падрыхтаваная. Першы тайм так і заканчваецца з лікам 1:0.

На трэцяй хвіліне другога тайма мяч зноў у нашых варотах. Каманда “Зорка - БДУ” павялічвае разрыў, лік становіцца 2:0. Трэнер сталічнай каманды выкрыквае: “Малайцы, дзеткі!” А трэнер нашай каманды адгукаецца на гэта першай заменай. На змену гульцу **Антону Савасцёнку** (№6) выходзіць **Юры Бугай** (№5).

Магчыма, дзякуючы гэтай замене гульня рэзка мяняе характар, становіцца больш вострай і напружанай. Бачна, як асноўныя падзеі гульні адбываюцца на палове поля каманды-саперніцы.

17-я хвіліна матча адкрывае лік галоў у вароты мінчан. Аўтарам гола становіцца гулец маладзечанскай каманды пад нумарам 10 **Аляксандр Працкевіч**.

Фанацкі сектар скандзіруе: “Нам патрэбны яшчэ гол”, і каманда прыслухоўваецца да гэтай крычалкі. На 26-й хвіліне дакладны ўдар **Дзяніса Жіліча** (№8) робіць лік нічыйным.

Маладзечанцы расслабіліся, за што і паплаціліся, бо амаль адразу ў нашы вароты ляціць трэці мяч.

На 43-й хвіліне матча варатар каманды “Зорка - БДУ” дае парады сваёй камандзе: “Хлопцы, гуляйце прасцей! Трэба пратрымацца яшчэ трохі”. А Аляксандр Працкевіч у гэты момант афармляе дубль у вароты сталічнай каманды. Канчатковы лік гульні становіцца 3:3.

Гульня была цяжкая і прынцыповая для маладзечанскай каманды, таму па каментар мы звяртаемся да трэнера каманды “Маладзечна - 2013” **Дзяніса Мятліцкага**:

**– Дзяніс, ці верылі ў такі вынік гульні, калі на табло быў лік 2:0?**

– Канешне. Я заўсёды гавару хлопцам настройвацца на перамогу, з якім бы лікам яны не гулялі.

**– А што вы сказалі камандзе ў перапынку? Чаму ў другім тайме так змяніўся тэмп гульні?**

– Нагадаў хлопцам мінулыя гульні. Яшчэ раз сказаў, што нападаючы ў камандзе павінен забіваць, для гэтага ён і нападаючы. Хлопцы мяне пачулі. Вынік вы бачылі.

**– Вы задаволеныя нічыёй?**

– Так. “Зорка - БДУ” – моцная каманда, на сённяшні дзень у іх другі радок турнірнай табліцы, таму для нас гэта ўжо перамога. Тры мячы ў вароты моцнага саперніка – гэта ўжо вынік.

**– Да канца чэмпіянату застаецца не так шмат матчаў, якія мэты вы перад сабой ставіце цяпер?**

– Увайсці ў першую пяцёрку чэмпіянату. Гэта рэальна. Каманда ў апошні час гуляе значна лепш.

Задаём пытанне дырэктару каманды **Аляксандру Любанцу**:

**– Аляксандр, на сённяшнім матчы амаль не было людзей. Скажыце, ці плануеце нейкія мерапрыемствы, каб прыцягнуць гледачоў на стадыён?**

– Да наступнай гульні, якая адбудзецца на стадыёне 13 кастрычніка, мы падрыхтуем афішы, хочацца думаць, што гэта дапаможа вярнуць аматараў футбола на стадыён.

Такім чынам, Маладзечна пакуль захоўвае дзявяты радок турнірнай табліцы. А ці спраўдзяцца прагнозы трэнера, што маладзечанская каманда скончыць сезон у тройцы лідараў, варта пабачыць на свае вочы.

**Наталля ТУР.**

ФУТБОЛ

# “Смаргонь”, другі раз запар безгалявая нічыя

**СМАРГОНЬ. 28 верасня дома ФК “Смаргонь” у матчы чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе прымаў “Ведрыч-97” з Рэчыцы.**

Як і мінулым матчы “Смаргоні”, была зафіксаваная безгалявая нічыя.

# Выйграйце білет на матч “Смаргоні”

**СМАРГОНЬ. Па традыцыі, якая стала ўжо сумнай, нікому не ўдалося угадаць лік матча з удзелам футбольнага клуба “Смаргонь”.**

У наступным туры “Смаргоні” 5 кастрычніка давядзецца гуляць у Слуцку з мясцовым клубам – лідарам чэмпіянату.

Каб паўдзельнічаць у сумесным конкурсе “Рэгіянальнай газеты” і афіцыйнага сайта ФК “Смаргонь”, вам трэба ўгадаць лік матча “Слуцк” – “Смаргонь”. Ваш адказ можаце даслаць да 12 гадзін 5 кастрычніка (субота) праз SMS на нумар 8(044) 566-26-99 ці пакінуць у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК “Смаргонь” “Вконтакте”, на афіцыйнай старонцы клуба ў Facebook. Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню “Смаргоні”.

Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад “Рэгіянальнай газеты”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт 

Прысылайце свае каментары да артыкулаў
і паведамленні праз
сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі
ці на e-mail:
regionnews@rh.by,
regionaljnaja@tut.by
SMS на нумар
+375-29 67-68-420

## Кожнае слова мае вагу

Прачытаўшы адказ адміністрацыі доследнага лясгаса, мне стала не па сабе. Абвінавацілі, плюнулі ў душу чалавеку, які нераўнадушны да ўсяго, што адбываецца на гэтай зямлі. А колькі працы ён уклаў, каб стварыць мемарыял "Боркі". Арганізоўваў суботнікі, запрашаў людзей. Ды каб не ён, то і сёння не было б дарогі да Борак, не было б і помніка. І робіць гэта ён не для сябе, не для ўласнай выгады, а каб не было сорамна перад нашчадкамі, каб нешта вартае пакінуць ім. І штучна праблем ён не стварае. Бо хіба гэта не кашчунства вазіць лес на цяжкавагай тэхніцы праз мемарыял!? Чым тут думалі людзі!? А калі дарожнікі ўсталявалі знак, які забараняў праезд, то ён знік за адну ноч. А як бязбожна знішчаецца прырода? Рабочыя лясгаса аднаго з раёнаў самі хапаюцца за галаву, што ўвесь лес хутка высекуць. Шкада, што такіх людзей, як Алесь Раткевіч, адзінкі. А каб кожны з нас быў такім, то мы даўно б жылі на Зямлі, як у раі. ***EVA.***

У Беларусі не так і многа прыродных багаццяў. Нафту і прыродны газ купляем. Балоты падчас СССР асушвалі. Цяпер лес некуды вывозяць (не будуць жа немцы свой лес секчы). Ваду таксама хутка будуць вывозіць за мяжу, а сваіх людзей паіць вадой з Вілейскага вадасховішча, якое ўсё цвіце. Як дзяўчат прадаюць, то "Міс Мінск" добра паказала. І што мы перададзім нашчадкам? Ні чыстага дзяцінства, ні чыстай вады, ні нават чыстага ляснога паветра. Ды яшчэ з боку-прыпёку паставім сабе АЭС, нашто ж нам спрабаваць пасябраваць з прыродай і ставіць ветракі. ***Юры.***

■ АЎТО

# Шэсць наіўных пытанняў пра тэхагляд

**МАЛАДЗЕЧНА. У каго ёсць транспартны сродак, той ведае, што тэхагляд для аўтамабіля – гэта як медагляд для чалавека. Калі не падрыхтавацца загадзя, на праходжанне такіх працэдур можна страціць не адзін дзень.**

Пагаварыць пра тэхагляд з намі пагадзіўся інжынер па допуску транспартных сродкаў да дарожнага руху **Сяргей Сальнікаў**.

**1. Колькі каштуе прайсці тэхагляд?**

– Тэхагляд бензінавых аўтамабіляў абыдзецца ў 115 тысяч рублёў, дызельных – 120 тысяч, матацыклаў – 60 тысяч рублёў.

**2. З якімі пашкоджаннямі аўтамабіль не пройдзе тэхаглад?**

– Такіх пашкоджанняў шмат. Іх можна паглядзець у правілах дарожнага руху. Для прыкладу, не пройдзе тэхагляд аўтамабіль, у якім разбітыя фары ці лабавое шкло. Не лішнім будзе, калі вы перад тым, як прыехаць да нас, прагледзіце сайт Белдзяржтэхагляду, там можна знайсці шмат карыснай інфармацыі.

**3. Ці пройдзе тэхагляд машына, якая ўпрыгожаная малюнкамі, аэраграфіяй?**

– Калі на гэта ёсць дазвол у ДАІ, тэхагляд не будзе прад'яўляць ніякіх прэтэнзій.

**4. Ці трэба плаціць за тэхагляд яшчэ раз, калі з першага разу яго не пройдзеш?**

– Калі недахопы выяўленыя нашымі супрацоўнікамі, за іх плаціць не трэба. Напрыклад, у вас можа быць пратэрмінаваная медыцынская даведка ці пасведчанне кіроўцы. Вы проста даводзіце іх да ладу, і мы яшчэ раз запрашаем вас на тэхагляд.

Калі ж пашкоджанні выявяць на дыягнастычнай станцыі, то вам трэба будзе заплаціць паўторна толькі за тое, у чым быў выяўлены недахоп. Па грашах даплата будзе каштаваць ад 20 да 40 тысяч рублёў, у залежнасці ад таго, які недахоп канкрэтна трэба ліквідаваць. І нагадаю ўсім, што паўторны тэхагляд неабходна прайсці на працягу 20 дзён пасля першага тэхагляду.

**5. Скажыце, а чэргі на праходжанне тэхагляду вялікія? Як кіроўцам планаваць свой дзень, калі яны вырашылі прайсці тэхагляд?**

– Для зручнасці і камфорту кіроўцаў мы вядзём папярэдні запіс на праходжанне тэхагляду. Вы самі можаце спланаваць, калі вам зручней прыехаць, каб прайсці тэхагляд без спешкі і нерваў.

**6. Што за новыя правілы тэхагляду ўводзяцца з 1 лістапада? Як яны закрануць кіроўцаў?**

– Ніяк. Новыя патрабаванні прад'яўляюцца да экалагічных параметраў рухавікоў транспартных сродкаў, гэта пакуль усё, што я ведаю. Пакуль мы не атрымлівалі новых нормаў правядзення тэхагляду. Калі яны з'явяцца, абавязкова раскажам пра іх.

**Наталля ТУР.**

### Дзе можна прайсці тэхагляд?

**Маладзечна:** В. Гасцінец, 1-а, тэлефон: 8(0176) 77 18 77
вул. Велікасельская, 38, тэлефон: 8(0176) 73 26 31
вул. Афіцэрская, 18-б, тэлефон: 8(0176) 77 81 66
вул. Гарадоцкая, 100-б, тэлефон: 8(0176) 70 44 70
Валожын: вул. Транспартная, 2, тэлефон: 8(0177) 25 66 33
**Вілейка:** вул. Чырвонаармейская, 105-а, тэлефон: 8(01771) 5-14-95
**Мядзел:** вул. Інтэрнацыянальная, 11, тэлефон: 8(01797) 5-55-92
**Смаргонь:** вул. Чыгуначная, 32, тэлефон: 8(01592) 3-43-68
**Астравец:** вул. Валадарскага, 28, тэлефон: 8(01591) 2-31-64
**Ашмяны:** вёска Будзёнаўка Ашмянскага раёна, тэлефон: 8(01593) 3-07-50

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | | | | 9 | | 5 |
| | | | 7 | | | 4 | | |
| | | | 5 | 6 | | | | 8 |
| | 2 | | 3 | | | 7 | | 1 |
| | | 1 | 9 | | 4 | 3 | | |
| 5 | | 4 | | | 6 | | 9 | |
| 9 | | | | 3 | 1 | | | |
| | | 3 | | | 9 | | | |
| 2 | | 8 | | | | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



■ РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастычная драма **"Гравітацыя"**, 3D (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
4 кастрычніка – 17.00, 19.00, 21.00
5–6 кастрычніка – 15.00, 17.00, 19.00, 21.00
7-8 кастрычніка – 19.00, 21.00
9-10 кастрычніка – 17.00, 19.00, 21.00
Кошт білета – 40 000/45 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Смелы вялікі панда"** (Германія, Кітай)
5, 6 кастрычніка – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.
Жахі, камедыя **"Дом з паранармальнымі з'явамі"** (ЗША)
4–6 кастрычніка – 19.30, 21.30
7 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.
Гістарычныя прыгоды **"Сляды апосталаў"** (Беларусь)
4–6 кастрычніка – 17.30
Кошт білета – 30 000 рублёў.
Драма **"Самая п'яная акруга ў свеце"** (ЗША)
8–10 кастрычніка – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.
Баявік **"Бяжы"** (ЗША)
8–10 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

**Тэл. для даведак:**
**8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на кастрычнік**

РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ

**"Все будет ХороШОУ!"** (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), Алег Чэчанеў
12 субота 11.00
**"Казка пра чырвоную стужачку"**, Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
16 серада 11.00 і 12.40

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

ПРЭМ'ЕРА. **"Падобны на Стынга"** (аптымістычная трагедыя ў 2-х дзеях), Ірына Пісьменная
1 аўторак 19.00
**"Чатыры навелы пра каханне"**. С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін
3 пятніца 19.00
**"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), Юры Вута
5 субота 17.00
**"№13"** (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
11 пятніца 19.00
**"Не такі, як усе"** (камедыя ў 2-х дзеях), Аляксей Слапоўскі
13 нядзеля 17.00
ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
17 чацвер 19.00
**"Маленькі свет..."** (жорсткая меладрама ў 2-х дзеях), Алена Папова
20 нядзеля 17.00

ДА 50-ГОДДЗЯ ВЯДУЧАГА МАЙСТРА СЦЭНЫ АЛЯКСАНДРА ПАШКЕВІЧА. **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў
22 аўторак 19.00
**"Любоў па-італьянску"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э.дэ Філіпа "Цыліндр"), Эдуарда дэ Філіпа
23 серада 19.00
**"Верная жонка"** (камедыя ў 2-х дзеях) Сомерсет Моэм
24 чацвер 19.00
ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
25 пятніца 19.00
**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях) Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі
26 субота 17.00
**"Банкет"** (сентыментальная камедыя), Ніл Сайман
27 нядзеля 17.00
**"Вечар"** (лірычная меладрама), Аляксей Дударaў
29 аўторак 19.00
ПРЭМ'ЕРА. **"Карона з кахання"** (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы), Анатоль Дзялендзік
31 чацвер 19.00
Тэатр мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: 76-17-32, 75-24-17. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Тры парсючкі"** (музычная казка). І. Сідарук.
6 кастрычніка – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

■ ГАРАСКОП (4-10 КАСТРЫЧНІКА)


**Авен.** Вас чакаюць перамены. Сярод іх трэба выдзеліць тыя, якія змогуць прывесці вас да поспеху, і адсячы тыя, якія не нясуць ні карысці, ні радасці.


**Цялец.** У асабістых адносінах запануе гармонія, калі вы будзеце больш давяраць блізкім і прыслухоўвацца да іх меркавання. А ўпэўненасць у сваёй праваце цягне за сабой праблемы.


**Блізняты.** Вас чакае ашаламляльны раман, які, магчыма, прывядзе да вяселля. Можаце сутыкнуцца і з праявамі неабгрунтаванай рэўнасці з боку партнёра. Не дайце падставы ўсумніцца ў вашых пачуццях. А калі з каханым вы чэсныя, то і маніпуляваць вамі не дазваляйце.


**Рак.** Зоркі настолькі добрыя да вас, што вам застаецца толькі працаваць. Вас чакаюць не толькі поспехі, але і прывілеі.


**Леў.** Калі ў вас ёсць якая-небудзь запаветная мара, то зоркі наблізяць вас да яе ажыццяўлення. Планеты самі паклапоцяцца аб тым, каб вы апынуліся ў патрэбны час і ў патрэбным месцы.


**Дзева.** Пачатак любых спраў звязаны з вялікімі намаганнямі, трэба пазбавіцца ад ляноты і павярхоўнага падыходу, інакш усё акажацца пустым марнаваннем часу.


**Шалі.** Калі вы праявіце ініцыятыву, то чакайце перамен да лепшага. І не бойцеся новага. Смеласць і рашучасць – і вам гарантаваны поспех.


**Скарпіён.** Не крыўдзіцеся на людзей, якія гавораць вам праўду, нехаця наносячы ўдар па самалюбству, менавіта іх парады засцерагуць вас ад крызісных сітуацый у будучым.


**Стралец.** Не прыкладайце намаганняў, каб спадабацца чалавеку, які вам сімпатычны, – вядзіце сябе натуральна, гэтага будзе дастаткова.


**Казярог.** Звярніце ўвагу на стан фінансавых спраў – прыйшоў час вырашыць, якія пакупкі зрабіць, а ад якіх адмовіцца. Спадзявайцеся на ўласнае меркаванне.


**Вадалей.** Перыяд падыходзіць для карэкцыі сваёй знешнасці, змены стылю адзення, прычоскі, для пачатку цыкла фізічных практыкаванняў.


**Рыбы.** Наступае час перагляду каштоўнасцяў. Пачніце з сябе – вы сябе зусім недаацэньвалі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155



**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +7 | | +5 / +7 | | +3 / +12 | | +5 / +13 | |
| | 753 | ← 4 | 750 | ↖ 1 | 747 | ↗ 4 | 748 | ↗ 3 |
| Вільня | +1 / +9 | | +3 / +10 | | +3 / +12 | | +4 / +11 | |
| | 763 | ↗ 2 | 758 | ↗ 4 | 756 | ↗ 4 | 757 | → 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.23
Захад 18.38
Даўжыня дня 11.15

Усход 7.49
Захад 18.31
Маладзік




## ПРЫКМЕТЫ

- Дзень Іаана Багаслова (9 кастрычніка). Пачыналіся восеньскія сватанні і вяселлі. "Іван Багуслаў служак разаслаў".
- У беларусаў-каталікоў Францішак (10 кастрычніка). "На святога Францішка шукае зярнят у полі мышка".

## Чытайце праз тыдзень:

- **Што адчувае беларус, які патрапіў на дэманстрацыю ў Літве? Якія крокі трэба прайсці, каб арганізаваць мітынг? Пра публічнае выяўленне сваёй пазіцыі чытайце ў наступным нумары**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці робіце вы прышчэпкі ад грыпу?



**Караліна Крываносава, дырэктар цырульні:**

– Я не раблю. Два гады таму, адразу ж пасля таго, як зрабіла, вельмі моцна захварэла. Потым яшчэ і ўсю зіму мучылася ад прастуды.



**Ганна Свяцкая, агент станцыі Маладзечна:**

– Прышчэпку рабіла летась, але сёлета вырашыла не рабіць, таму што была вельмі моцная рэакцыя на яе. Адразу ж захварэла. Ды і ўвогуле вакцына нічым не дапамагла.



**Таццяна Аляціна, студэнтка:**

– Я раблю прышчэпкі штогод, адчуваю сябе выдатна. Аднойчы я захварэла на грып, але і хварэла нядоўга, і ўскладненняў ніякіх. Значыць, дапамагае.



**Аляксандр Рышкевіч, заточнік на мэблевай фабрыцы:**

– Прышчэпкі не раблю і дзецям сваім не дазваляю. Не разумею, навошта у свой арганізм уносіць вакцыну, якая не дае ніякіх гарантый. У дадатак вельмі вялікая рызыка адразу захварэць.



**Ганна Канановіч, гаспадыня:**

– Прышчэпкі я не раблю, ды і родныя мае таксама. Я лічу, што лепшыя лекі ад хвароб – гэта здаровы лад жыцця. Напрыклад, мы з мужам кожны тыдзень ходзім у спартзалу.



**Уладзіслаў Кароткі, кіроўца:**

– Лепей грошы, якія аддам за прышчэпку, я патрачу на вітаміны. Так больш надзейна і не давядзецца напіхваць арганізм незразумелымі лекамі.



**Марта Краўчонак, псіхолаг:**

– Я раблю прышчэпкі ад грыпу ўжо даўно. Неяк прапусціла вакцынацыю, і ўсю зіму прахварэла. Таму лічу, што гэта добрая засцярога ад хвароб і падтрымка для імунітэту!

**Падрыхтавала Святлана АЛЬФЕР.**


Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 40 (962) 4.10.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 916. Падпісана ў друк у 10.00 3.09.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.